# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 18 (24). Верасень 1992 г. Цана 1 рубель

## Перамовы дэлегацыі

### БНФ І БХДЗ ЗЬ ПАЛІТЫЧНЫМІ ДЗЕЯЧАМІ ЭЎРОПЫ

Дэлегацыя БНФ і БХДЗ знаходзілася ў Брусэлі зь 1-га па 5-е верасьня 1992 г. Быў праведзены шэраг спатканьняў з кіраўніцтвам дэмакратычных партыяў Бэльгіі і фракцыяў Эўрапарлямэнту. Адбыліся перамовы зь вядучымі палітычнымі дзеячамі ў Эўрапарлямэнце, міністэрстве замежных справаў з кіруючымі асобамі НАТА, дзе быў прачытаны даклад і адказана на пытаньні супрацоўнікаў НАТА, праведзена прэс-канфэрэнцыя ў Міжнародным прэс-цэнтры Брусэля, сустрэчы з бэльгійскімі прыдпрыймальнікамі і прадстаўнікамі міжнародных фондаў у Бэльгіі. Галоўнай тэмай перамоваў былі праблемы дэмакратычных працэсаў на Беларусі і ўсебеларускі рэфэрэндум аб даверы Вярхоўнаму Савету і нечарговых выбарах. Беларуская дэлегацыя паінфармавала аб парушэньні правоў чалавека і закону з боку Вярхоўнага Савета Беларусі, аб фактычнай страце ім легітымнасьці і імкненьні ўтрымаць уладу незаконнымі сродкамі.

У выніку перамоваў паміж кіраўніцтвам БНФ і кіраўніцтвам Эўрапэйскага Саюзу Хрысціянаў-Дэмакратаў/Эўрапэйскай Народнай партыі быў складзены пратакол аб намерах і пэрспэктыве ўзаемадзеяньняў у межах закона, статутаў і дэмакратычных праграмаў.

**З. ПАЗЬНЯК.**

Менск

**Ад рэдакцыі:** іншыя матэрыялы пра побыт беларускіх дэмакратаў у Бэльгіі чытайце на стар. 2—5.

**Як мы ўжо паведамлялі, у ЗША прайшла 20-я Сустрэча беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Падаём на бачынах 1—2 шэраг дакумэнтаў з гэтае імпрэзы.**

## БЕЛЫ ДОМ
### Вашынгтон
### 3-га верасьня 1992 г.

Я рады вітаць усіх, што зьехаліся ў Нью-Брансьвік на 20-ю штодвухгадовую Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Асабліва вітаю вашых гасьцей з-за мяжы.

За два гады ад часу вашае апошняе сустрэчы карта сьвету была даслоўна перарысаваная ў выніку таго, што сьвет перажывае адраджэньне свабоды й дэмакратыі. У сьнежні летась Злучаныя Штаты з пачуцьцём гонару прызналі незалежнасьць новавызваленай Беларусі ды заклалі базу для пашырэньня двубаковага і шматбаковага супрацоўніцтва. У часе, калі ваша ўвага засяроджаная на сьветлай будучыні, што чакае вашых сяброў і сваякоў у Беларусі, я ўрачыста абяцаю маё поўнае й працяглае падтрыманьне ў іхных намаганьнях установіць стабільны, дэмакратычны ўрад ды арыентаваную на вольны рынак эканоміку, і я далучаю свой голас да вашых малітваў за мір у цэлым рэгіёне.

Як я сказаў Прэзыдэнту Шушкевічу, амэрыканцы падзяляюць адданасьць свабодзе і справядлівасьці, якую прадэманстраваў мужны народ Беларусі. Мы таксама разумеем тыя шматлікія цяжкасьці, што стаяць перад ім і якія трэба перамагчы, каб выйсьці з цыклю стагнацыі й заняпаду як выніку дзесяцігодзьдзяў камуністычнага панаваньня. Цешачыся дабротамі свабоды разам з дабрабытам, што стаўся вынікам прыватнага прадпрыймальніцтва і вольнага рынку, мы гатовыя падтрымваць нашых беларускіх сяброў і дапамагаць ім у іхным гістарычным заданьні. Я вітаю гатовасьць Прэзыдэнта Шушкевіча супрацоўнічаць у намаганьні выканаць міжнародныя пагадненьні аб зьніжэньні ўзроўню ядзерных узбраеньняў і тэхнічнай дапамозе Беларусі.

Барбара далучаецца да маіх найлепшых пажаданьняў вам плённай і прыемнай сустрэчы.

**ДЖОРДЖ БУШ.**

# ЗАЯВА
## Беларускай сялянскай партыі

На дварэ ўжо восень, а па Беларусі не перастаюць шугаць лясныя пажары. Гіне ў агні наша нацыянальнае багацце—лес, ператвараюцца ў попел тарфянікі, наносяцца велізарныя страты прыродзе, гарады і вёскі літаральна задыхаюцца ад дыму. Гэта ж не што іншае, як новае нацыянальная бедства. Здавалася б, у такой эстрэмальнай сітуацыі ўрад рэспублікі павінен бы аб'явіць нешта накшталт надзвычайнага становішча, арганізаваць шырокую мабілізацыю насельніцтва на тушэнне пажараў, прыняць самыя дзейсныя захады супраць падпальшчыкаў лесу. Але ён, як бачым, абмежаваўся традыцыйнымі сродкамі і захадамі. Нават звычайны амаль дэкларацыйны зварот Савета Міністраў да насельніцтва Беларусі, дарэчы, падпісаны намеснікам старшыні ўрада, быў апублікаваны толькі пад канец лета, калі паспела ўжо згарэць велізарная частка лясных масіваў. Але і з гэтага звароту відаць, што нічога эфектыўнага ўрад так і не адшукаў. Штрафы на падпальшчыкаў лесу ці тых, што неасцярожна абыходзіцца з агнём, проста смехатворныя, сімвалічныя. Такі лібералізм улад проста не даравальны.

Гэтак жа, як і ў нядаўнія часы партыйна-савецкая наменклатура ўсе няўдачы ў сельскай гаспадарцы спісвала на «неблагоприятные погодные условия», так і сёння віну за велізарныя матэрыяльныя страты, што наносяць Беларусі пажары, улады ўскладваюць на «небывалую засуху», апраўдваючы ёю сваё няўменне арганізаваць эфектыўную барацьбу з імі, сваё бяссілле супраць стыхіі тых, хто праяўляе злачынную неасцярожнасць з агнём. Пасля ўсяго гэтага паўстае пытанне: ці заслугоўвае народнага даверу такі ўрад?

**Цэнтральная рада БСП**

## АБ БУДУЧАЙ ПАЛІТЫЦЫ

10—11 верасня ў сталіцы адбылася сумесная канферэнцыя ініцыятыўнай групы рэферэндуму і Сойму БНФ «Адраджэньне», прысвечаная пытанням падрыхтоўкі да рэферэндуму і выбараў.

У першы дзень канферэнцыі выступіў прадстаўнік інстытута Кр[illegible] Вольнай Фундацыі Кангрэсу ЗША, які даў аналіз палітычнае сітуацыі ў нашай краіне, апавёў аб неабходнай палітыцы дэмакратычных колаў грамадства напярэдадні рэферэндуму. 11 верасня канферэнцыя выслухала і дыскутавала па выступах сп.сп. У. Анцулевіча («Аб тактыцы ініцыятыўнай групы») і Ю. Хадыкі («Паведамленне аб міжнародных кантактах у сувязі з рэферэндумам»). Была прынята рэзалюцыя.

У гэты ж дзень на Сойме разглядаліся перспектывы й задачы ўнутранай ды міжнароднай палітыкі Беларускага Народнага Фронту.

**М. ВАЛАЧОБНІК.**

*Весткі з раёнаў*

### Тэлеплюралізм

Чатыры цікавыя замежныя тэлеканалы маюць магчымасць глядзець жыхары аднаго з мікраёнаў Глыбокага. У дадатак да гэтага абаненты будуць мець мажлівасць глядзець разнастайныя відэафільмы.

### Нарэшце

Герб «Пагоня» ўпрыгожыў Дом Саветаў у Глыбокім.

### Дыскрымінацыя!

Беспрацоўе ў Глыбокім становіцца праблемай. Статус беспрацоўных ужо атрымалі болей 30 чалавек. Яшчэ 93 (у асноўным жанчыны) зарэгістраваны ў якасці шукаючых працу.

### На граніцы

Днямі з Мытнага камітэту прыйшоў загад аб фармаванні штату Браслаўскай мытні, падрыхтоўка якой да дзейнасці ішла пяць месяцаў. У перспектыве тут будзе працаваць 29 чалавек.

*Прысяга*



### ГАРОДНЯ

*8 верасня гісторыка-культурнае таварыства «Паходня» наладзіла канферэнцыю вайскоўцаў запасу і чыннай службы, прысвечаную Дню беларускай вайсковай славы. Прысутныя, а іх было каля сотні чалавек, праслухалі даклад пра Аршанскую бітву і склалі прысягу на вернасць народу Беларусі і яго дзяржаве. Урачыстасць закончылася шэсцем удзельнікаў імпрэзы да брацкай магілы палеглых у 2-й Сусветнай вайне і памятнага знака ў гонар пераможцаў пад Грунвальдам, дзе былі ўскладзены кветкі.*

**А. ЖУКОЎСКІ.**

### ВІЦЕБСК

*У гэты ж дзень на вернасць беларускаму народу й Беларусі ў горадзе прысягнулі болей шасці дзесяткаў віцябляў.*

**Н. ПРЫСУТНЫ.**

**На фота:** прынядце прысягі ў Віцебску.

## На гэты раз— у росшук

На Старасямёнаўскіх могілках зноў крадзеж. На гэты раз—бронзавай часткі помніка Дарты Пліекшане, маці вядомага латышскага паэта Яна Райніса. Супрацоўніца Беларускага фонда культуры падала заяву ў Чыгуначны РАУС на росшук злачынцаў.

**Наш карэспандэнт.**

## УДЗЯЧНЫ ЗА СУПРАЦОЎНІЦТВА

*Нашу газету пакідае галоўны рэдактар Леанід Цвіка, пад кіраўніцтвам якога выданне пражыло амаль год і набыло свайго вернага чытача. Мы ўдзячны былому галоўнаму за гэтае, а таксама за плённую працу, за багаты досвед, які ён перадаў калегам.*

*Жадаем поспеху Леаніду Цвіке на ніве хрысціянскае журналістыкі.*

**Калектыў газеты.**

Папярэднія нумары нашае газеты Вы можаце набыць у рэдакцыі.

Вашая рэклама ў нашым выданні—гэта рэклама для Беларусі і замежжа.

З. Пазьняк

# Палітычная сітуацыя на Беларусі і пэрспектывы яе разьвіцьця

**(ДАКЛАД ПРАЧЫТАНЫ ДЛЯ КІРАЎНІЦТВА І СУПРАЦОЎНІКАЎ НАТА, 3 ВЕРАСЬНЯ 1992 г., БРУСЭЛЬ)**

Глыбокапаважаныя спадары.

Адраджэньне нашай суверэннай дзяржавы Беларусі на палітычнай карце сьвету стала магчымым пасьля краху камуністычнай сістэмы, зьяўляецца заканамерным вынікам барацьбы за свабоду і незалежнасьць, што прывяло да распаду Савецкага Саюзу. Сьвет ужо пасьпеў забыцца пра нашае існаваньне, тым больш, што зьмянілася гістарычная назва нашай тысячагадовай дзяржавы. Але мы жывём і адраджаем сваё нацыянальнае гістарычнае быцьцё. У X стагодзьдзі гэта была Полацкая зямля ці Полацкае княства, што аб'яднала старажытныя беларускія землі крывічоў і літвы, прыняло хрысьціянства ад грэкаў, мела сваю княскую дынастыю Рагвалодавічаў са сталіцай у горадзе Полацку. Да канца XIII стагодзьдзя ў выніку працягу аб'яднаньня земляў, барацьбы з крыжакамі, Кіеўскай Русьсю і татара-манголамі адбылася зьмена княскай дынастыі і ўтварылася Вялікае Княства Літоўскае—старажытная беларуска-літоўская фэадальная дзяржава, у якую ўваходзілі ўсе беларускія землі, Жмудзь (пераддваенная Летува) і да сярэдзіны XVI стагодзьдзя землі Украіны. Вялікае Княства Літоўскае, асабліва ў XV—XVI—першай палове XVII стагодзьдзяў яго існаваньня—гэта Залаты час беларускай культуры і дзяржаўнасьці. Беларуская мова была прызнаная дзяржаўнай мовай і ў XVI ст. замацаваная ў асноўным законе—Статуце Вялікага Княства Літоўскага—першай, фактычна, Канстытуцыі дзяржавы. З XIV стагодзьдзя беларускія гарады кіраваліся Магдэбургскім правам, у эпоху готыкі створаны велічныя замкі, рэнэсанс і барока прынесьлі тонкую пекнату ў будаўніцтва храмаў і гарадоў, разьвіваліся цэхі і рамёствы, мастацтва і права, культура і дзяржаўнае будаўніцтва, пагрунтаванае на законах і феадальным праве, на свабодзе веравызнаньняў і незвычайнай да таго часу верацярпімасьці.

Вялікае Княства Літоўскае—гэта была наймагутнейшая дзяржава на ўсходзе Эўропы. Беларуская культура засьведчыла пра сябе сьвету не толькі замкамі, храмамі і вайсковым умельствам. У 1517 г. доктарам свабодных навук Францыскам Скарынай з Полацка былі выдадзеныя першыя друкаваныя беларускія кнігі—першыя сярод усходніх славянаў. У 1529, 1566 і 1588—выдаваўся Статут Вялікага Княства Літоўскага, збор законаў—помнік феадальнага беларускага права (а таксама і старажытнабеларускай кніжнай мовы), які паўзьдзейнічаў на разьвіцьцё прававай думкі свайго часу і законы іншых дзяржаў.

На працягу ўсёй 500-гадовай гісторыі існаваньня Вялікага Княства Літоўскага амаль палова часу—гэта бесперапынныя войны на ўсходзе з Масквой і пазьней з Расейскай імперыяй, якія вызначаліся і вынікалі галоўным чынам з геапалітычнае сытуацыі. Пастаянная пагроза з усходу прывяла да саюзу з Польшчай і стварэньня ў 1569 годзе канфедэратыўнай дзяржавы—Рэчы Паспалітай (г. зн. «Агульнай справы»). Гэтае ўтварэньне, аднак, аказалася нежыцьцяздольным і ў канцы XVIII ст. было разарванае паміж трыма імперыямі—Расейскай, Прускай і Аўстра-Венгерскай. Беларусь захапіла Расея.

Нацыянальна-вызваленчая барацьба беларускага народа працягвалася на працягу ўсяго XIX і пачатку XX стагодзьдзя. За гэты час адбылося пяць узброеных паўстаньняў супраць самадзяржаўя. Толькі ў 1918 г. была адноўлена дзяржаўнасьць і створана Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) і 25 сакавіка гэтага ж года аб'яўлена яе незалежнасьць. Аднак у канцы 1918 года БНР была акупавана бальшавіцкім расейскім войскам. На невялікай частцы акупаванай тэрыторыі бальшавікі былі вымушаныя дазволіць стварэньне марыянеткавай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, пакінуўшы сабе велізарныя беларускія абшары на ўсходзе з гарадамі Смаленскам, Невелем, Бранскам, аж да Ржэва і Дарагабужа. Гэтыя адвечныя беларускія тэрыторыі не вернутыя Беларусі да сёньняшняга дня. Урад БНР на працягу ўсяго перыяду расейска-савецкай акупацыі існаваў у эміграцыі. Зараз знаходзіцца ў ЗША.

Гады акупацыі—гэта, перш за ўсё, палітыка этнацыда, асіміляцыі і генацыду, якая дасягнула асабліва жорсткіх і антычалавечых формаў у часы бальшавікоў. За перыяд ленінска-сталінскіх рэпрэсіяў на Беларусі была зьнішчана амаль трэць яе насельніцтва (каля трох мільёнаў), зьнішчаны помнікі гісторыі і культуры, спалены старажытныя кнігі, разрабаваныя нацыянальныя каштоўнасьці, сфальсіфікаваная нацыянальная гісторыя, зачынены беларускія школы, зьнішчана нацыянальная адукацыя. Ніколі яшчэ наш народ не выходзіў з гістарычнага катаклізму, з палітычнага небыцьця такім нацыянальна абяскроўленым. Але мы поўныя ўпэўненасьці і аптымізму. Паступова грамадзтва выздараўлівае. Мы зьберагліі вельмі важныя народныя якасьці: здольнасьць да працы, цярплівасьць, здаровы сэнс, прывязанасьць да Бацькаўшчыны, павагу да чалавечай асобы.

У жніўні 1991 года была разбурана ўлада КПСС. Беларусь замацавала сваю незалежнасьць у Канстытуцыі дзяржавы. Здавалася б перад Рэспублікай адчыніліся небывалыя пэрспектывы, якія Беларускі Народны Фронт сфармуляваў як вяртаньне нашага народа ў Эўропу, у сістэму эўрапэйскай цывілізацыі. Народны Фронт таксама прапанаваў парламенту вызначыць на пэрспектыву канстытуцыйны статус Беларусі як нейтральнай бяз'ядзернай дзяржавы. На наш погляд, для ўмацаваньня незалежнасьці неабходна было зрабіць наступныя пераўтварэньні: ажыцьцявіць рэформу ўлады (ліквідаваць саветы і перайсьці на муніцыпальную сістэму кіраваньня); ажыцьцявіць рэформу эканомікі на рыначнай аснове; адрадзіць нацыянальную культуру і нацыянальную сьвядомасьць; стварыць інстытуты дзяржаўнай незалежнасьці (нацыянальная валюта і фінансава-крэдытная сістэма, нацыянальная армія, мытная сістэма і межы, міжнародныя сувязі на ўзроўні пасольстваў). Практычна нічога гэтага за мінулы год незалежнасьці не ажыцьцёўлена, нягледзячы на адчайныя спробы дэпутацкай Апазіцыі БНФ паўзьдзейнічаць на палітыку Вярхоўнага Савета. Шмат якія задачы (напрыклад, стварэньне нацыянальнага войска) спрафанірованыя, рэформы адкінутыя.

У чым жа прычына? Перш за усе, разгледзім сутнасьць пераменаў, што адбыліся ў былым СССР у жніўні 1991 г. Адбылося, на наш погляд, пераразьмеркаваньне ўлады паміж партыйнай і дзяржаўнай наменклатурай (бюракратыяй). Сістэма наменклатурнай улады ў Савецкім Саюзе складалася з двух узроўняў. Першы ўзровень нелегітымны—гэта рэальная ўлада КПСС і яе структураў. Другі ўзровень—квазілегітымны—гэта прымітыўная падстаўная ўлада Саветаў і іх выканаўчых органаў—шырма камуністычнай дыктатуры. Сюды ж належаць суд, пракуратура і дзяржаўныя прафсаюзы. Пасьля ліквідацыі КПСС, супроць якой быў накіраваны галоўны ўдар дэмакратычных сілаў, рэальная ўлада перайшла ў манапольнае валоданьне квазілегітымных органаў—Саветаў і іх выканаўчых інстытутаў, практычна не прыстасаваных да функцыянальнага ажыцьцяўленьня ўлады. Аднак і першы, і другі ўзровень улады ў СССР зьвязваліся адзінай уладнай «субстанцыяй»—камуністычнай наменклатурай. Наменклатура непадзельная. Пасьля ліквідацыі КПСС камуністычная наменклатура старых дзяржаўных структураў аўтаматычна атрымала манаполію на ўладу (дарэчы, кепска рэгуляваную законам). Гэтым тлумачыцца даволі лёгкая і ціхая сьмерць КПСС. Яна (сьмерць) структурна пераразьмеркавала ўладу камуністычнай наменклатуры, надала ёй «сьвецкі», г. зн. квазідэмакратычны, характар. Гэта як у прыпавесьці пра двухгаловага зьвера—адну галаву сьцялі, а зьвер жыве.

Калі ў іншых рэспубліках былога СССР у асяродзьдзі наменклатуры ўтварылася скрытая апазіцыя КПСС (тых, хто зразумелі выгады для сябе лозунга «улада саветам»), то на Беларусі камуністычная наменклатура аказалася непадзельнай у сваёй рэакцыйнасьці, антынароднасьці і адданасьці маскоўскаму партыйнаму камуністычнаму рэжыму. Тым не менш у жніўні 1991 года абвал адбыўся і тут, праўда, пад моцным і рашучым націскам парламенцкай Апазіцыі Народнага Фронту і дэмакратычных сілаў Беларусі. Беларуская наменклатурна-камуністычная Вандэя правалілася палітычна, але ўтрымала ў руках дзяржаўную ўладу.

Грунтоўных дэмакратычных пераўтварэньняў у сістэме ўлады на Беларусі не адбылося. Разбурана толькі структура КПСС, яе ідэалагічны кантроль над грамадзтвам. Палітыка наменклатуры засталася такой, як і была—адносіны да дзяржаўнай улады як да сваёй прыватнай уласнасьці. Аднак паводзіны наменклатуры пераменіліся. Калі раней сіла ўлады наменклатурнай бюракратыі выяўлялася ў існаваньні асаблівай партыйнай арганізацыі таталітарысцкага зьместу, то цяпер, са стратай партыйных структураў і партыйнага кантролю, улада наменклатуры пачала губляць універсальны характар. Адміністраваньне не дасягае мэты. У гэтых умовах наменклатурная камуністычная бюракратыя ўбачыла грунт сваёй улады ва ўласнасьці, у манаполіі на вытворчасьць і ў цэлым на эканоміку. На Беларусі зараз адбываецца пераразьмеркаваньне дзяржаўнай уласнасьці ў прыватную ўласнасьць бюракратычнай наменклатуры. Альбо, кажучы бытавой мовай, адбываецца раскраданьне бюракратыяй дзяржаўнай уласнасьці незаконнымі і карпаратыўнымі (на аснове антыдзяржаўных законаў) метадамі. Менавіта таму і не ажыцьцяўляюцца рыначныя рэформы эканомікі, павольна зьяўляюцца дэмакратычныя законы, сабатуюцца ўжо прынятыя дэмакратычныя палажэньні. Ствараюцца ўмовы і прымаюцца адпаведныя заканадаўчыя акты, спрыяльныя для наменклатурнага пераразьмеркаваньня дзяржаўнай уласнасьці, трапна названай у грамадзтве «прыхватызацыяй».

«Прыхватызацыя» выклікае рэзка негатыўную ацэнку ў народзе, бо людзі разумеюць, што іх зноў бессаромна абкрадваюць. Усе канструктыўныя спробы парламенцкай Апазіцыі БНФ прымусіць Вярхоўны Савет прыступіць да рэальных рэформаў эканомікі і ўласнасьці ў інтарэсах народа і дзяржавы не далі адчувальных вынікаў.

Трэба адзначыць, што ў Вярхоўным Савеце Беларусі, выбраным на аснове антыдэмакратычнага закону ў часы панаваньня камуністычнага рэжыму, 86 працэнтаў дэпутатаў—гэта былыя камуністы і прадстаўнікі камуністычнай наменклатуры, прытым амаль усе яны цяпер пастаянна працуюць у выканаўчых органах улады, пачынаючы ад ураду, міністэрстваў і канчаючы раённымі саветамі, выканкамамі, органамі МУС, КДБ, пракуратуры.

Неабходна растлумачыць таксама, што камуністычная наменклатура ўлады на Беларусі характарызавалася незвычайнай коснасьцю і кансерватызмам, залежнасьцю ад ідэалогіі Масквы і нацыянальным нігілізмам, гэта значыць усеагульным непрыняцьцем культурных нацыянальных каштоўнасьцяў уласнага народу, нянавісьцю да беларускай мовы, ад якой камуністы адмовіліся, непрыняцьцем незалежнасьці Беларусі. Усе гэтыя комплексы, сфармаваныя раней пад узьдзеяньнем інтэрнацыянальна-русіфікатарскай палітыкі КПСС, засталіся і цяпер з рэдкім выключэньнем амаль у нязьменным выглядзе. Адсюль непасьлядоўнасьць і супярэчлівасьць у дзеяньнях Вярхоўнага Савета, гамаваньне дэмакратычных рэформаў, сабатаваньне станаўленьня нацыянальнай беларускай дзяржавы. Каб зьмяніць становішча, парламенцкая Апазіцыя Народнага Фронту распрацавала і прапанавала некалькі дзесяткаў праектаў законаў на дэмакратычнай аснове. Практычна ўсе яны (нават праект закона аб барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасьцю), за выключэньнем некаторых палажэньняў, былі адкінуты, а тыя, што ў асноўным прынятыя (напрыклад, Закон аб грамадзянстве), фактычна не дзейнічаюць і сабатуюцца выканаўчай уладай. Асабліва адмоўна адбіваецца на разьвіцьці дзяржавы непрыняцьце законапраекта аб прыватнай уласнасьці на зямлю. Без гэтага закона размовы пра рэформы, пра цэны на прадукты, замежныя капіталаўкладаньні, інвестыцыі ў беларускую эканоміку, зьяўляюцца пустым гукам. Тым не менш, кіруючая камуністычная наменклатура, маючы эканамічную і палітычную базу ў калгаснай вёсцы, не ідзе на дэмакратычнае рынкавае вырашэньне зямельнага пытаньня.

Цяперашняе наменклатурна-камуністычнае кіраўніцтва Беларусі не вырашыла і не спрабавала вырашыць ніводнай неабходнай праблемы нацыянальнага разьвіцьця, лічачы за лепшае пасіўна плесьціся ў рэчышчы разбуральнай палітыкі Расеі, чым прыкладваць намаганьні па стварэньні, скажам, сваёй фінансава-крэдытнай сістэмы, нацыянальнай валюты, пошуку дадатковых пастаўшчыкоў энергарэсурсаў, стварэньні праграмаў эканоміі і альтэрнатыўных крыніцаў энергіі і г. д. І гэта пры ўсім пры тым, што Беларусь—адна з найбольш разьвітых у эканамічным дачыненьні дзяржаваў з шэрагу рэспублік былога СССР, з навукаёмістай разнабаковай вытворчасьцю, з даволі высокім узроўнем сельскай гаспадаркі (параўнаўча, вядома), зь вялікім навуковым і інтэлектуальным патэнцыялам, з багатымі запасамі вытворчай сыравіны, з грамадзкай стабільнасьцю.

Прывязваючы Беларусь да абвальнага эканамічнага працэсу разбурэньня, што адбываецца ў Расеі, беларуская кампрадорская наменклатура прымушае нашу дзяржаву страчваць свае перавагі, губляць сваю свабоду, пэрспектыву ўмацаваньня незалежнасьці, робіць бессэнсоўнай народную працу, бо вынікамі яе народ не карыстаецца, бяднеючы з кожным днём.

Такія дзіўныя, на першы погляд, паводзіны тлумачацца адсутнасьцю ў цяперашняга наменклатурна-камуністычнага кіраўніцтва Беларусі яснай канцэпцыі разьвіцьця незалежнай дзяржавы, правіцыяльнасьцю, ці неразьвітасьцю дзяржаўнага мысьленьня. Палітыка, накіраваная на прыватнае ўзбагачэньне наменклатурнай бюракратыі пры дапамозе ўлады, на карпаратыўны падзел і прыватнае прысваеньне дзяржаўнай уласнасьці, на задушэньне адраджэньня нацыянальнай сьвядомасьці і нацыянальнай культуры, супярэчыць імкненьням народа і нацыянальным інтарэсам Беларусі.

Выхадам з такога становішча, якое не можа працягвацца доўга, могуць стаць нечарговыя дэмакратычныя выбары новага парламента Беларусі. У канцы сьнежня 1991 года парламенцкая Апазіцыя Беларускага Народнага Фронту выступіла з ініцыятывай правядзеньня ўсебеларускага рэферэндуму аб роспуску існуючага Вярхоўнага Савета і аб дэмакратычных выбарах пастаяннага парламента (Сойма) на аснове дэмакратычнага выбарчага закона, распрацаванага БНФ. Для правядзеньня рэферэндуму створаны блок «Рэферэндум» з усіх дэмакратычных рухаў, партыяў і арганізацыяў. Да 12 красавіка 1992 года ініцыятыўная група рэферэндуму, дзейнічаючы строга па закону і пераадольваючы моцнае супраціўленьне ўлады на месцах, сабрала 442 тысячы подпісаў (неабходна 350 тыс.) і перадала іх у Цэнтральную камі-

(Заканчэньне на 4-й і 5-й стар.).

## ПРЫТУЛЮСЯ ДА

# А куды падацца рускамоўнаму беларусу?

Мне здаецца, што зараз, праз 2 гады пасля прыняцця «Дэкларацыі аб суверэнітэце» і праз год пасля абвяшчэння Незалежнасці, мы зноў апынуліся перад выбарам, які вызначыць, ці здольныя мы надалей існаваць у свеце як народ. Былыя «інтэрнацыяналісты» (цяпер часта «дэмакраты» ці «саборныя славяне») зноў усчынаюць гаворку аб «паспешлівасці» у правядзенні беларусізацыі, а то і аб яе «шкоднасці». Спасылаюцца пры гэтым на сучаснае бядотнае становішча беларускай мовы, на пагарду да яе саміх беларусаў, дабіваюцца замацавання гэтага становішча шляхам надання дзяржаўнасці расейскай мове, а намаганні па пашырэнні ўжытку беларускай мовы ва ўсіх галінах жыцця грамадства і дзяржавы называюць бальшавізмам, які «парушае натуральнае развіццё грамадства». З пункту гледжання гэтых дзеячоў справа выглядае так, быццам беларуская мова памірае ў выніку адвольнага, заканамернага і натуральнага працэсу, а сучаснае яе становішча ўяўляецца ім цалкам заканамерным і нармальным. Таму сфармуляваць праблему можна наступным чынам: альбо знікненне беларускай мовы—гэта цалкам натуральны працэс, і тады намагацца яе адрадзіць—пустая трата сіл, альбо цяперашняе становішча беларускай мовы—вынік шматгадовай гвалтоўнай палітыкі паланізацыі і русіфікацыі, якую па чарзе перадавалі адно аднаму асімілятары з Усходу і Захаду.

Як раз апошняе пацвярджаецца гістарычнымі фактамі. Пісалася пра гэта шмат, але варта прыгадаць некаторыя моманты. Па далучэнні Беларусі да Расійскай імперыі працягвалася і нават узмацнілася паланізацыя. Спахапіўшыся пасля трох паўстанняў (1794, 1830, 1863), расейскія ўлады ўзяліся за русіфікацыю. Адметную ролю тут адыграў М. М. Мураўёў, генерал-губернатар «Северо-Западного края» у 1863—1865 г.г., добра вядомы як «вешальнік». У спецыяльнай праграме «умиротворения края», якая была ўхвалена царом у красавіку 1864 г. і з таго часу няўхільна выконвалася самім Мураўёвым і яго паслядоўнікамі, ён пісаў: «... 2, устроить и по возможности возвысить достоинство православного духовенства, для чего Ваше императорское величество соизволили приказать отпускать ежегодно по 400 тысяч рублей на добавочное содержание... 3) заняться устройством православных храмов, для чего я испрашивал еще 500 тысяч рублей в добавок к расходу, производимому мною из контрибуционных сумм (кантрыбуцыі накладаліся на ўдзельнікаў паўстання 1863—1864 г.г.; на тыя грошы пачалі будавацца так званыя «мураўёўкі»—цэрквы псеўдарускага стылю, з «цыбулінамі», нехарактэрнымі для беларускай архітэктурнай традыцыі,—па ўсёй Беларусі ў вялікай колькасці, у тым ліку і на Віцебшчыне.—В. С.)—на что и последовало впоследствии разрешение; 4) умножить по возможности число русских школ, как между христианами, так и евреями, дабы русская речь была всюду господствующею, как и подобает быть в русском крае; ...7) водворить на прочных основаниях русский элемент в крае, для чего поселять русских крестьян на конфискованных за мятеж землях и приглашать русских к покупке имений в том крае с предоставлением им льгот на основании составленных в министерстве государственных имуществ и высочайше одобренных Вашим императорским величеством правил с новыми добавлениями о наделении русских чиновников участками до пятисот десятин и более, с рассрочкою уплаты денег в известный период времени, дабы тем самым улучшить быт русских деятелей в могущих быть там земских собраниях; 8) для будущего прочного обеспечения власти русского правительства замещать постепенно и постоянно все главные должности, в особенности же полицейские и соприкасающиеся непосредственно с народом, лицами русскими, вызванными из сердца империи. Для поощрения же русских деятелей Вашему императорскому величеству благоугодно было разрешить им прибавку 50% к содержанию».

Адзін гэты дакумент выразна паказвае сродкі русіфікацыі, якімі сталі царква, школа і каланізацыя шляхам перасялення, асабліва начальства.

Яшчэ ў 1842 г. былі ўстаноўлены льготы для купцоў і прамыслоўцаў на Беларусі—яны вызваляліся на 15 год ад падаткаў і службы ў войску. А яшчэ раней, на пачатку XIX ст., расейскімі ўладамі было ажыццёўлена гвалтоўнае перасяленне цэлага народа: усе яўрэі ў межах «черты оседлости» (г. зн. на Беларусі і Украіне) з вёскі менш чым за 30 год былі пераселеныя ў гарады. Напэўна, пры гэтым ставіліся і нейкія іншыя мэты, але ў выніку ўжо ў пачатку XX ст. вядомы дзеяч яўрэйскага нацыянальнага адраджэння Уладзімір (Зееў) Жабацінскі з горыччу адзначаў: «Уже и теперь евреи во многих городах «черты оседлости», где великорусского населения нет, являются единственными, так сказать, представителями русской культуры, т. е. говоря точнее, единолично русифицируют край». Адплацілі ім тым, што пры падаўленні першай дэмакратычнай рэвалюцыі 1905—1907 г.г. расейскія ўлады шырока выкарыстоўвалі арганізаваныя паліцыяй антысеміцкія пагромы пад лозунгам «абароны рускага цара і рускага народа».

Таксама ж і кананізаваны расейскімі «патрыётамі» П. А. Сталыпін, абвясціўшы лозунг «Россия для русских», увёў на Заходняй Беларусі і Украіне земствы такім чынам, каб надаць тады яшчэ нешматлікім расейскім памешчыкам—чыноўнікам пануючую ролю ў вышэйшым і мясцовым кіраванні.

Асобае значэнне надавалася школе. Паплечнік Мураўёва, кіраўнік Віленскай навучальнай акругі Карнілаў сфармуляваў гэта так: «Русское образование сильнее русского штыка». Цікава, што сваю таленавітую руку да справы русіфікацыі прыклаў і «неистовый Виссарион»—В. Бялінскі. Спадзеючыся ўладкавацца працаваць настаўнікам на Беларусі, ён выклаў свае меркаванні наконт больш паспяховых метадаў русіфікацыі ў сваіх нататках, адрасаваных кіраўніку навучальнай акругі. На працу яго не ўзялі, але ідэі шырока скарысталі.

Ну і вядома, пасля захопу ўлады бальшавікамі (за выключэннем кароткага перыяду другой паловы 20-х гг.) пачалося проста фізічнае вынішчэнне носьбітаў беларускай мовы, пасля чаго мы павінны былі канчаткова «зліцца».

Колькі ж гвалту і грошай спатрэбілася, каб дапамагчы «вымирающему наречию» памерці! А каб тыя грошы ды на гаспадарку! Дзіва, што пасля ўсяго гэтага беларуская

# Палітычная сітуацыя на Беларусі

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

сію па рэферэндуму, якая, праверыўшы, прызнала правільнасьць і законнасьць сабраных подпісаў і дала пра гэта сваё Заключэньне ў Вярхоўны Савет. Тым самым, згодна з Законам, рашэньне аб правядзеньні абавязковага рэферэндуму па зацьверджаным пытаньні прынятае. Прэзідыум Вярхоўнага Савета павінен быў у месячны тэрмін склікаць сесію Вярхоўнага Савета, якая, згодна з Законам, прызначае дату правядзеньня рэферэндуму.

Варта адзначыць, што рэферэндум на Беларусі—гэта будзе першы дэмакратычны рэферэндум на тэрыторыі былога СССР, арганізаваны па ініцыятыве зьнізу. Усе рэферэндумы, што праходзілі на былых савецкіх абшарах раней, зыходзілі ад кіруючых структураў дзяржавы.

Аднак прайшло ўжо больш чым чатыры месяцы з моманту прыняцьця рашэньня аб правядзеньні рэферэндуму, а Вярхоўны Савет так і не сабраўся. У красавіку, спыніўшы разгляд законапраектаў, сесія была раптоўна перапынена. Вярхоўны Савет, фактычна, самараспусьціўся на нявызначаны тэрмін. Такія своеасаблівыя паводзіны тлумачацца боязьзю рэферэндуму і таму нежаданьнем зьбірацца на сесію, бо тады прыйдзецца прызначыць дату правядзеньня рэферэндуму. Тым часам эканоміка ў цяжкім стане, узрастаюць цэны, не хапае асноўных эканамічных законаў, а Вярхоўны Савет вось ужо хутка паўгода ў вольным самароспуску.

Мы бачым у такіх несур'ёзных дзеяньнях (ці, дакладней, у бязьдзеяньні) Вярхоўнага Савета нежаданьне выконваць закон і грубае парушэньне правоў чалавека, у прыватнасьці правоў тых 442 тысячаў выбаршчыкаў, якія паставілі свае подпісы за правядзеньне рэферэндуму.

Цяпер усе паводзіны кіруючай посткамуністычнай наменклатуры на Беларусі вызначаюцца рэферэндумам. Вярхоўны Савет самаўхіліўся ад палітыкі, даўшы свабоду дзеяньняў наменклатурнаму ўраду (сфармаванаму, дарэчы, яшчэ ЦК КПБ—КПСС). Урад ужо зрабіў шэраг абарончых захадаў, разьлічаных на магчымае паражэньне наменклатуры на рэферэндуме і на выбарах. Перш за ўсё, урад узяў у свае рукі сродкі масавай інфармацыі агульнанацыянальнага значэньня, амаль увесь перыядычны друк. Урад зрабіў сябе заснавальнікам гэтых выданьняў і ўтрымлівае іх за «свой», як ён мяркуе, кошт, забіраючы сродкі зь дзяржаўнага бюджэту, дэфіцыт якога даўно перайшоў за крытычную рысу. Усё гэта выглядае даволі дзіўна, і для чалавека, выхаванага на традыцыях дэмакратыі, магчыма, здаецца тэатрам абсурду.

Урад рэарганізаваў сваю структуру па ўзору ЦК КПСС, стварыў адзьдзелы, што фактычнаназіраюць і кіруюць міністэрствамі, сродкамі інфармацыі, войскам і т. п. У прыватнасьці, пакрываецца небывалая карупцыя ў былой савецкай арміі, што перайшла пад юрысдыкцыю Беларусі. З войска, якое фармальна лічыцца беларускім, метадычна і мэтанакіравана звальняюць афіцэраў беларускай нацыянальнасьці, санкцыянуецца прасьледаваньне афіцэраў-беларусаў за патрыятызм, за любоў да Бацькаўшчыны, за размову па-беларуску. Савецкая ваенна-партыйная машына сьвядома забараняла афіцэрам-беларусам служыць на Беларусі. Прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў (асабліва рускіх) наадварот прысылалі на Беларусь. У выніку амаль 40 тысячаў афіцэраў-беларусаў апынуліся ў Расейскай Федэрацыі і іншых дзяржавах і толькі 5 тысячаў на Беларусі (г. зн. менш 18 працэнтаў). Іх якраз і хочуць выгнаць у запас. Афіцэры, што засталіся за мяжой Беларусі, ніяк не могуць вярнуцца на Бацькаўшчыну ў беларускае войска. Ім ствараюць усялякія бюракратычныя перашкоды менавіта тут, у Беларусі. Урад і ваенная наменклатура хочуць стварыць з войска чужую нашым нацыянальным інтарэсам аднародную структуру, па-першае, каб зручней распрадаць, выкарыстаць і прыватызаваць ваенную маёмасьць, па-другое, каб у выпадку паражэньня на выбарах выкарыстаць неканстытуцыйныя сродкі для захаваньня сваёй улады. Гэта, вядома, утапічныя «пражэкты», уласьцівыя ўзроўню думаньня былых савецкіх ваенных чыноўнікаў, але, тым не менш, такія «пражэкты» выказваюцца былымі «палітрукамі».

Пасьля прыняцьця рашэньня аб правядзеньні рэферэндуму наменклатурны ўрад Беларусі зрабіў рэзкі паварот у бок Расеі, адкрыта адкідаючы нацыянальныя інтарэсы беларускай дзяржавы. 20 ліпеня 1992 г. у Маскве былі падпісаны Пратакол спатканьня ўрадавых дэлегацыяў Расеі і Беларусі, Дагавор аб каардынацыі дзейнасьці ў ваеннай галіне, Пагадненьне аб стратэгічных сілах, часова разьмешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусі і іншыя дакументы, згодна зь якімі Беларусь зьбіраецца мець «адзіную грашовую сістэму» з Расеяй на аснове расейскага рубля. Відавочна, няма патрэбы тлумачыць, што такое рашэньне ў існуючым становішчы было б раўназначна страце суверэнітэту, нацыянальнай капітуляцыі. Тады ўсялякія эканамічныя рэформы на Беларусі губляюць сэнс. Беларускі народ зь іх нічога не скарыстае.

Асабліва абсурдныя і для многіх нечаканыя пагадненьні ў ваеннай галіне. Яны супярэчаць прынцыпам незалежнай дзяржавы. Згодна з гэтымі ненармальнымі пагадненьнямі ўсе стратэгічныя войскі на тэрыторыі Беларусі пераходзяць пад юрысдыкцыю Расеі, але пры гэтым Беларусь не атрымлівае ні капейкі за арэнду тэрыторыі, палігонаў, аэрадромаў і г. д. Увесь рух вайсковага расейскага транспарту будзе адбывацца на бяспошліннай аснове пры поўнай адсутнасьці кантролю за перамяшчэньнем расейскіх войскаў з боку беларускай дзяржавы; сацыяльна-бытавое забесьпячэньне расейскіх ваеннаслужачых бярэ на сябе беларускі бок. Фінансаваньне свайго войска на Беларусі будзе, вядома, ажыцьцяўляць Расея і, вядома ж, пустымі інфляцыйнымі рублямі, а напаўняць гэтыя пустыя рублі таварам (па сутнасьці, паперу) вымушана Рэспубліка Беларусь. Расея будзе ажыцьцяўляць поўны кантроль над абароннай вытворчасьцю Беларусі. Самае дзівоснае ў гэтых арыгінальных пагандненьнях тое, што грамадзяне Беларусі будуць рэкрутаваныя служыць у армію чужой дзяржавы і прымаць прысягу не Беларусі. (Згодна з Законам аб грамадзянстве такія ваеннаслужачыя аўтаматычна пазбаўляюць сябе грамадзянства Беларусі). Расейскае войска застаецца на тэрыторыі беларускай дзяржавы не два гады, як адзначалася ў ранейшых дакументах СНД, а сем гадоў, што абсалютна нічым не абгрунтавана, акрамя як экспансіянісцкімі намерамі расейскага кіраўніцтва. У гэтых пагадненьнях лёгка прададзеныя нацыянальныя інтарэсы Беларусі, парушаныя дагаворы СНД. І што даволі сымптаматычна—гэтыя пагадненьні ўрад падпісаў без папярэдніх палітычных кансультацыяў з Вярхоўным Саветам.

Паўстае пытаньне, чаму такія пагадненьні сталі магчымымі. Галоўная прычына—ізноў рэферэндум. У выпадку

*Вакол культурна-рэлігійнага жыцця*

# БЕЛАРУСІ ПАТРЭБНА НЕЗАЛЕЖНАЯ (АЎТАКЕФАЛЬНАЯ) ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

Хуткай хадой надышло 1000-годзьдзе Хрысьціянства на Беларусі. Расейская Праваслаўная Царква надала гэтай падзеі вузка-праваслаўны характар, падаючы яе як 1000-годзьдзе Праваслаўнай Царквы на Беларусі. Але, прабачце, у 992 годзе яшчэ не было падзелу на Рымскую і Праваслаўную Цэрквы. Артадоксы (Праваслаўная Царква) канчаткова парвалі стасункі з рымскімі папамі ў 1054 годзе. Доўгі час на Захадзе Праваслаўе менавалі схізмай. Гэтае грэчаскае слова азначае «раздор», «раскол». Трэба мець пад увагай і тое, што беларусы з часоў Полацкага й Тураўскага Княстваў напрамую шчыльна кантактавалі як з Усходам, так і з Захадам, і асабліва на падзел абрадаў не зважалі. Тым ня менш роля візантыйскага абраду на Беларусі вельмі значная. У нас заўсёды існавала сваё, адметнае Праваслаўе, адмысловае абраднасьцю, мовай дый пісьмом набажэнстваў, архітэктурай. Пасьля захопу Беларусі Расейскай Імперыяй гвалтоўна пачаліся ўкараняцца чужацкія парадкі й выкараняцца ўсё беларускае. Беларускіх сьвятароў перамясьцілі ў цэнтральныя губерні Расеі, а Беларусь нашпігавалі расейцамі. Цэрквы дый касьцёлы зьнявечылі, перарабілі іх на расейскі ўзор, панішчылі ўсё, што лучыла з эўрапейскай культурай. Дзеля гэткай перабудовы быў створаны сьпецыяльны дэпартамент. Нарэшце, у 1839 годзе была зьнішчаная Уніяцкая Царква, да якой належала каля 90% беларускага насельніцтва.

Сёньня дзеячы Расейскай Праваслаўнай Царквы на Беларусі (РПЦ) імкнуцца давесьці беларусам, што маскоўскае Праваслаўе ёсьць самаю беларускаю рэлігіяй, і яно здаўна стаяла на абароне беларускіх інтарэсаў. Але й сёньня РПЦ ідзе ў авангардзе пасьлядоўнай русіфікацыі беларусаў. Кім жа нам звацца сёньня?—зьедліва пытаўся на мітынгу ў гадавіну Чарнобыля айцец Мікалай,—беларукраінцамі, белаэстонцамі?» (Як быццам беларусаў не было й няма!) Айцец жа Мікалай узначаліў перабудову помніка дойлідства 18 ст. Трынітарскага касьцёла (цяпер Пакроўская царква) у тыповым маскоўскім духу—наведзены купал, навешаны крыжы маскавітаў з ускосінай, настаўлены над вежамі цыбуліны з пыхлівай пазалотай. Усё зроблена з пагардай—маўляў, нічога беларусы ня маеце дый толькі Расея дала вам культуру. Цікава, што РПЦ, як шчыры сябра КПСС і КДБ, зьнішчыўшы вялікі абсяг беларускай культуры й ментальнасьці, яшчэ асьмельваецца прыкідвацца сябрам беларускага народу! Але Праваслаўная Царква маскоўскага гатунку на Беларусі перспектывы ня мае! Па меры росту нацыянальнай самасьвядомасьці давер беларуса да акупацыйнай Царквы няўхільна зьмяншаецца. Таму адзінае выйсьце для Беларускага Экзархата Маскоўскай Патрыярхіі РПЦ—дамагчыцца Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Зразумела, пасьля шчырага пакаяньня за свае грахі на беларускай зямельцы.

**М. ПАЎЛАЎ.**

# ЧАМУ НАС КРЫЎДЗЯЦЬ УЛАДЫ?

У пачатку перабудовы з'явілася надзея, што можна будзе адкрыта маліцца, вольна праводзіць рэлігійныя абрады, рамантаваць разбураныя храмы. Але на самай справе ўсё далёка не так.

Вось пагэтаму мы, вернікі-католікі Ульскай парафіі касцёла. Святой Тройцы, звяртаемся ў газету «Выбар».

Парафіяне нашага прыхода жывуць на абодвух берагах Дзвіны ў Бешанковіцкім ды Шумілінскім раёнах. Пры гэтым, большасць нашых вернікаў кампактна пражывае ў апошнім з раёнаў. Касцёл жа знаходзіцца ў Уле на тэрыторыі Бешанковіцкага раёна.

На просьбу вернікаў у верасні 1990 года біскуп накіраваў у нашую парафію ксёндза Мечыслава Янчышына з правам набажэнства ў Лепелі і ў нас.

Богаслужэнне й рэлігійныя абрады ксёндз праводзіць у капліцах, збудаваных на сродкі парафіянаў, у адпаведнасці з правіламі, якія ўстаноўлены ў каталіцтве. Карыстаецца павагаю прыхаджанаў.

На ахвяраванні, сабраныя вернікамі, ксёндз Мечыслаў Янчышын рэстаўрыруе касцёлы ў г. Лепелі і г. п. Уле.

Вернікі Ульскай парафіі сабралі семдзесят тысяч рублёў. Парафіяне Лепеля сабралі пяцьдзесят тысяч рублёў. Гэтыя грошы пералічаны на рахункі банкаў Лепеля й Шуміліна. Для рамонта Ульскага касцёла куплена і завезена 150 тысяч штук цэглы і 150 м³ лесу.

Усё гэтае арганізаваў і дапамагае ажыццяўляць ксёндз.

Парафіяне-лепяльчане звярталіся ў гарвыканкам і міліцыю, каб прапісаць у сябе ксяндза. Прыхаджане з Улы таксама звярталіся па гэтаму пытанню ў Шумілінскі райсавет і да раённага куратара па рэлігіі, да ўпаўнаважанага рады па справах рэлігіі аблвыканкама Марозава за дазволам на прапіску.

Аднак гэтага дазволу на прапіску ксяндза Мечыслава дагэтуль мы не атрымалі.

А жытло для святара ёсць! У вёсцы Мікалаёва Шумілінскага раёна побач з капліцаю куплены дом. А ў Лепелі пры касцёле адрамантавана для ксяндза кватэра.

Зараз, калі кс. Мечыслаў Янчышын прыклаў столькі намаганняў і сілаў, калі столькі зроблена, у Бешанковіцкім райвыканкаме прапанавалі святару пакінуць тэрыторыю раёна, і ўвогуле, нашага гаспадарства.

Мы, вернікі, лічым такое рашэнне раённых уладаў незаконным. Пагэтаму нашыя прадстаўнікі ездзілі ў Менск да сп. Жыльскага, які ведае рэлігійнымі пытаннямі ў Рэспубліцы. Але ж прыняў іх не Жыльскі, а яго намеснік—Паўлючэнка. Да таго ж, куды толькі нашых хадакоў не пасылаў! І ў камітэт дзяржбяспекі, і ў аддзел прапіскі грамадзян, і да нашага дэпутата Вярхоўнага Савета сп. Штокіна. Выклікалі і біскупа.

Аніхто прэтэнзій па прапісцы ў нас ксяндза Мечыслава Янчышына не мае. Як вынік, сказалі, што мы можам спакойна ехаць дадому, што святара з нашага прыхода не вышлюць...

Але вось ужо два гады працягваецца гэтая валакіта, а мясцовыя ўлады з-за розных зачэпак ксяндза так і не прапісваюць. Да таго ж М. Янчышына штрафуюць за пражыванне без прапіскі.

У газеце «Віцебскі рабочы» № 13 і Шумілінскай раёнцы «Герой працы» № 9 за гэты год у артыкулах «Які поп, такі і прыход» абылгалі і святара, і парафіян-католікаў. Мы напісалі ў «ВР» абвяржэнне на гэты артыкул, але ж яго не апублікавалі.

Вось сцісла аб нашых праблемах. Аднак іх у нас куды болей. І нам вельмі крыўдна, што ўладу трымаючыя не паважаюць, не лічацца з намі, з вернікамі, з нашымі рэлігійнымі пачуццямі.

Па даручэнню вернікаў Ульскай парафіі касцёла Св. Тройцы **Эм. Ермаловіч, М. Кралько і яшчэ 4 подпісы.**

**АД РЭДАКЦЫІ: Такія ж цяжкасці меліся ў віцебскіх католікаў дый іхняга кс. Януша Скэнчака. Нялатва прыйшлося ўніятам і Царкве сходу Хрыстовага—шматмесячная цяганіна з рэгістрацыяй іх у Віцебску папсавала настрой у вернікаў. У чым жа справа! Напэўна, у тым, што нашае чыноўніцтва так і не пазбавілася сумна вядомага ваяўнічага атэізму, які яно яшчэ нядаўна адкрыта вызнавала.**



**Вось так выглядала Пакроўская царква (былы каталіцкі Трынітарскі касцёл), помнік беларускага дойлідства, пасля адной з пераробак у XIX ст.**

## Жанчыны змагаюцца за свае правы

12 верасня адбылася ўстаноўчая канферэнцыя жаночага хрысціянскага руху. Мэты руху: нацыянальнае адраджэнне, абарона правоў асобы, у прыватнасці жанчын і дзяцей, дабрачыннасць і міласэрнасць.

Жадаючых звязацца з рухам просьба накіроўваць лісты на адрас:

220093, г. Менск, вул. М. Лынькова, д. 7, кв. 47, сп. Людміле Пеціная.

**М. Каліноўскі.**



Карціна **Ю. Якімовіча** *«Касцёл у Лідзе».*

## Юбілей помніка

Сёлета спаўняецца 210 гадоў з часу пабудовы ў 1782 г. глыбоцкага Троіцкага касцёла. Ён размешчаны ў старым цэнтры горада. Архітэктурны стыль—позняе барока і «мадэрн».

# История с трактором,
## ОСНОВАННАЯ НА ДОКУМЕНТАХ

**(Окончание. Начало на 7-й стр.).**

бывшего директора совхоза «Озерцы» Меженина, освобожденного в марте 1992 года от должности за злоупотребления властью.

Документ № 2. Из объяснения Меженина П. И. Глубокской райпрокуратуре: «Где-то в октябре 1991 года в Глубокском р-не находился зам. председателя облисполкома Мисуно Т. И., он посещал совхоз «Озерцы». В беседе со мной он поинтересовался возможностью покупки в хозяйстве в личное пользование **нового** трактора МТЗ-80. Я пояснил ему, что новая техника, и в частности трактора, поступают в совхоз по разнорядке, к тому же в хозяйстве на них много желающих работать. **Тогда Мисуно Т. И. сказал, что будет новый трактор вне фондов.** В конце декабря 1991 года в совхоз «Озерцы» приехал Мисуно Т. И. Он сообщил мне, что на совхоз идет новый трактор МТЗ-80 **вне фондов** с Витебской базы сельхозтехники. Из совхоза Мисуно Т. И. звонил в Витебск на базу СХТ и узнавал цену трактора МТЗ-80. Я пригласил гл. бухгалтера сохоза и он оформил накладную на покупку в совхозе «Озерцы» нового трактора МТЗ-80. Два экземпляра накладной были переданы Мисуно Т. И. Он попросил меня, чтобы купленный им трактор постоял в хозяйстве. В этот же день в совхоз «Озерцы» поступил новый трактор МТЗ-80. Его привезла автомашина из г. Витебска. По моему указанию трактор МТЗ-80 был поставлен на центральный склад».

Документ № 3. Из объяснения Глубокской райпрокуратуре Акуленко В. И., зам. директора сохоза «Озерцы» (бывший первый секретарь Глубокского райкома КПБ): «С 27 декабря 1991 года работаю зам. директора совхоза «Озерцы». В конце декабря 1991 года в совхоз «Озерцы» приезжал Мисуно Тихон Иванович. Он приезжал по поводу покупки в хозяйстве нового трактора МТЗ-80 и оформления документов. С собой он привез чеки и по чекам оплачивал покупку трактора. Совхозом «Озерцы» Мисуно Т. И. был продан новый трактор, который поступил в совхоз вне фондов из г. Витебска. Трактор МТЗ-80 поступил в совхоз в один и тот же день, когда оформляли документы на его покупку. Он пришел без сопроводительных документов и при его продаже из совхоза звонили еще в Витебск и уточняли цену. Мисуно Т. И. попросил Меженина П. И., чтобы трактор постоял пока в совхозе «Озерцы». Он был поставлен на склад. При покупке трактора МТЗ-80 сын Мисуно не присутствовал».

Как видим, объяснения Меженина П. И. и Акуленко В. И. полностью опровергают утверждение Т. И. Мисуно, что он в этой сделке не участвовал и «все вопросы решались сыном». Получается, что все вопросы решал как раз сам Тихон Иванович. А руководители совхоза «Озерцы» охотно шли ему навстречу во всех его пожеланиях. Далее в своих объяснениях Меженин и Акуленко указывают, что 17 марта 1992 года трактор, купленный Мисуно Т. И. и стоявший до этого дня в совхозном складе, забрал сын Тихона Ивановича Вадим Тихонович, погрузил на автомобиль и увез в неизвестном направлении. Примерно в то же время—в марте 1992 года лишился должности директора совхоза за злоупотребления Меженин. Случайно ли это совпадение во времени?

А вот что поясняет дочь Тихона Ивановича Лилия Тихоновна, на имя которой зарегистрирован купленный трактор. Это уже будет документ № 4. Из объяснения Мисуно Л. Т. прокуратуре: «По вопросу приобретения трактора МТЗ-80 в совхозе «Озерцы» поясняю следующее. Осенью 1991 года в нашей семье встал вопрос о приобретении трактора для моего брата Мисуно Вадима. **Мне кажется, что вопрос об этом решался на уровне облисполкома.** Кто конкретно обращался с заявлением к администрации совхоза по вопросу покупки трактора я не знаю».

На последней сессии областного Совета устный ответ на письменный запрос депутата Ю. А. Лавренова об этой сделке и о судьбе 130 внефондовых тракторов пытался дать зам. председателя облагропродхоза А. М. Комоско. Вот фрагмент диктофонной записи этого сумбурного, невнятного выступления (документ № 5): «Четвертый раз, начиная с прокуратуры, иду вот сейчас на высокий форум на встречу с депутатами объясняться. Как дали трактор совхозу «Озерцы». Значит хочу сказать, что же не один трактор мы реализовали и сразу я должен выразить как это по технологии, как его там выдавали. Значит, мы получали основные фонды, закрывали. Старались изыскивать сверх. Нам официально никто не давал... Я к Кулешову ездил неоднократно, раз нам удалось кое-что. Нам удалось действительно, порядка 130 мы заполучили в область. В основном все эти трактора были направлены в районы. Ну, в зависимости от нагрузок от госзаказа. Там кому 3, кому 2, 5—самое максимальное. Что касается совхоза «Озерцы», значит, в конце года я, значит, не просто сидел и ждал, как это куда трактор отдать. Ездил в Брянск, заполучил около 6 тысяч тонн цемента, потому что дешевый, 60 рублей тонна. Хотелось сделать, чтобы для области было, для колхозов и совхозов». И так далее. Слов много, но ответа по существу сделанного Лавреновым запроса не прозвучало. Вот как обосновал тот же А. М. Комоско в том же выступления на сессии поставку внефондового трактора, купленного семьей Мисуно в совхозе «Озерцы»: «А основание; в октябре раз позвонили мне из Союзплемобъединения, заместитель начальника по моему управлению». Так что насчет «уровня облисполкома» Лилия Тихоновна, возможно, ошиблась. По-видимому, в этой сделке с трактором участвовало какое-то лицо из бывших союзных структур, которое воспользовалось «телефонным правом».

И наконец—еще один документ. Вывод областной прокуратуры: «При таких обстоятельствах есть основания считать, что Мисуно Т. И. причастен к направлению трактора в совхоз «Озерцы» для продажи его сыну. И. о. прокурора Витебской области старший советник юстиции Л. П. Домашевский». Легко представить, что было бы после такого вывода прокуратуры с любым из простых смертных. Для власть имущих закон по-прежнему не писан? Может, ответ на этот вопрос даст сессия областного совета, намеченная на 1 октября? Впрочем, Тихон Иванович, по-видимому, хорошо усвоил правило, что лучшая оборона—это нападение. Вот цитата из его выступления на заседании комиссии областного Совета; «У меня складывается сомнение, не соучастен ли депутат Лавренов с определенной преступной группой, которая через него выдала эту информацию. Это мое предположение». Никаких конкретных доказательств на этот счет Мисуно привести не смог. Не нашли таких фактов и правоохранительные органы. Неужели Тихон Иванович так и не найдет в себе мужества признаться в содеянном? И как обещал на заседании комиссии, подать в отставку?

**А. БУКАЧЕВ.**




УСПАМІН ПРА МІНУЛАЕ ЛЕТА.

Выданне Я. Я. Шыраева «Беларусь: Русь Белая, Русь Чёрная и Литва в картах», а таксама друкі па культуры, гісторыі, мове беларускага народу кааперацыйна-выдавецкага таварыства «Адраджэньне». Вы можаце купіць кожны аўторак а 19 гадзіне на паседжаннях клуба «Узгор'е» у гарадскім цэнтры культуры (Віцебск).

* * *

Кіеўскі ўніверсітэт чакае дапамогі з боку беларускай культурнай грамадскасці. Нам патрэбны газеты і часопісы, мастацкая літаратура і любыя іншыя выданні, напісаныя сучаснай беларускай літаратурнай мовай па 7—10 экземпляраў.

252115, Кіеў-115, вул. М. Краснова, 12, кв. 33 (тэл. 450-53-43). Рыгор Піўтарак, прафесар кафедры моў і літаратур Украіны Кіеўскага ўніверсітэта імя Т. Шаўчэнкі.

* * *

Транснацыянальная радыкальная партыя: тэлефон у Менску 63-21-48 (Канстанцін Наскоў).

Наступны нумар газеты выйдзе 7 кастрычніка 1992 г.

## Вясёлы глобус

Ля чыгуначнай касы:

—*Ці мне трэба купіць квіток для дзетак, калі ім усяго некалькі гадоў?*

—*Калі менш пяці, тады не.*

—*Як добра! У мяне іх толькі чацвёра.*

* * *

—**Што вы такая заклапочаная, фрау Эрна?**

—**Увіце сабе, учора мой муж зваліўся са стула і кожны зламаў па ножцы.**

## Вы яшчэ не скаўт?

*Вы жадаеце ўдзельнічаць у беларускім нацыянальным скаўцкім руху? Вы ўжо ім займаецеся, але не ведаеце сваіх калегаў? Тады звяртайцеся на адрас:*

*230010, Гародня, вул. Гая, 7, кв. 66, Аркадзь Жукоўскі (х т. 6-09-18).*



ЗАСНАВАЛЬНІК:
*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

Галоўны рэдактар
Барыс ХАМАЙДА

Мастак Р. Клікушын.
Фатаграфіі М. Міхайлава.
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17, тэл. 37-35-06, 37-28-44.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку («Віцкамбанк»). Код (МФО) банка 150801701.

Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні ім. Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.

Палігр347фісты: **В. Карунас, Л. Волкава, Л. Драздова, А. Каспаровіч, Д. Малышаў, Б. Платоўскі.**

Нумар падпісаны да друку 22.09.1992 г. у 17.15
Наклад 2500 экз.

*Цана 1 рубель*